# КРЫВІНКА

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА

СНЕЖАНЬ
№ 17 (101)
2011 год


"Нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай мовай".
Ул. Караткевіч.




http://haradok.belarda.org - сайт нашага рэгіёна


МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## З НОВЫМ ГОДАМ, СЯБРЫ!

2011-ы – ужо ў гісторыі. Чым ён успомніцца нам праз колькі гадоў? Глабальнай катастрофай на Фукусіме? Тэрактам у менскім метро? Падзеямі ў Лівіі і суседніх краінах? Беспрэцэндэнтнымі выракамі ўдзельнікам прэзідэнцкай кампаніі? Шалёным крызісам, які пакінуў бальшыню беларусаў голымі і босымі? Ростам цэнаў, што скокнулі за год у завоблачныя высі?

Тым ці іншым, але год 2011-ы нікога не пакінуў па-за ўвагай, нікога не пакінуў раўнадушным. Пэўна, бальшыня беларусаў канчаткова зразумела, што іхнім марам пра шчаслівае заможнае жыццё ў найбліжэйшай будучыні збыцца ніяк не лёсіць.

І, на маю думку, вінаваты ў тым, як гэта шмат разоў падкрэсліваў у сваіх выступах і кіраўнік краіны, самі беларусы. Толькі маё меркаванне адрозніваецца ад ягонага карэнным чынам. Ён лічыць, што мы яго не паслухаліся, кінуліся ўсё скупляць і тым выклікалі крызіс. Я ж лічу, што мы залішне апалітычна пачалі сябе паводзіць пасля выбараў. Нас супакоілі падвышэннем сярэдніх заробкаў да 500 у.а., запужалі спачатку судовымі працэсамі над апазіцыяй, потым тэрактам у метро. Ды беларусы ніколі і не адрозніваліся высокай палітычнай актыўнасцю. Бальшыня іх лічыць, што добрае жыццё нам мусіць нехта паднесці на спадачку, а гэта вельмі заганная тэорыя.

Я тут не заклікаю да рэвалюцый, бо з'яўляюся іх праціўнікам. Але без аб'яднання ўсіх здаровых сілаў, ніякіх пераменаў у грамадстве нам чакаць не выходзіць. І, нават, калі мы хочам нешта змяніць у лепшы бок у сваім раёне, горадзе ці савеце, нам трэба аб'ядноўвацца. Мы мусім ствараць дазволеныя законам арганізацыі, пры дапамозе якіх вылучаць сваіх кандыдатаў на выбары ў мясцовыя і раённы Саветы. Мы мусім не прымаць на веру, што кандыдаты ад улады і запраўду будуць клапаціцца пра нашу будучыню. Толькі тады, калі хаця б некалькі чалавек (не чыноўнікаў) здолее трапіць у раённы Савет, людзі змогуць атрымаць праўдзівую інфармацыю пра тое, як фармуецца і расходваецца бюджэт – нашы агульныя грошы. Толькі тады мы можам дачакацца хаця б надзеі на нейкае дабраўпарадкаванне нашых вуліц, ходнікаў, будаўніцтва міні аўтапаркінгаў, пляцовак для дзетак і г.д.

Дайсці да сапраўднай дэмакратыі – доўгі і цяжкі шлях. Але ім прайшла бальшыня эўрапейскіх краін. Выбіраць нейкі новы, адметны шлях для сябе – займацца пустабрэхствам.

"Крывінка" за апошні год атрымала дзесяткі калі не сотні званкоў ад сваіх чытачоў. Абсалютная бальшыня з іх падзяляе погляды рэдакцыі на падзеі ў Беларусі і свеце. Мне б вельмі хацелася падзякаваць усім чытачам за падтрымку, за цёплыя словы і пажадаць ім надзеі на светлую будучыню. Пажадаць моцнага духу, аптымізму, стойкасці, здароўя, плёну ў працы.

**З Новым годам, сябры!**

**Г.Станкевіч.**

## Неба

*Цэлы год неба хмурыцца,*
*Б'е, сцябае залевамі,*
*І чамусь кола вечнасці*
*З месца Бог не скране.*
*Ды сваімі бясконцымі*
*Навальнічнымі спевамі*
*І акордамі хмар*
*Яно кліча мяне.*
*Там, за хмарамі рванымі*
*Яно чыста-блакітнае.*
*За нябеснаю брамаю*
*Сонца нават ўначы.*
*О, як прагне душа мая*
*З крыламі перабітымі*
*З ненавіснае шэрасці*
*У блакіт уцячы.*
*Толькі ўзняцца бяскрыламу*
*Немагчыма, паверце мне.*
*Скінуць каб ненавіснае,*
*Трэба сонца глытoк.*
*І усё ж страпянёмся мы*
*І ўзляцім белым ветразем.*
*Той палёт у блакіт*
*Не супыніць ніхто.*
*Там, за хмарамі рванымі*
*Неба чыста-блакітнае.*
*За нябеснаю брамаю*
*Сонца нават ўначы.*
*О, як прагне душа мая*
*З крыламі перабітымі*
*З ненавіснае шэрасці*
*У блакіт уцячы.*

**Г.Станкевіч.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ТРЭЦЯЯ ЕЛКА,

### або чаму прылізванае і прыгладжванне фактаў стала нормай у дзяржаўных СМІ

Калі я прачытаў у раёнцы артыкул пра тое, як выбіралі і везлі елку на цэнтральную плошчу Бешанковіч, то быў злёгку шакаваны. Бо мне да таго часу былі ўжо вядомыя некаторыя падрабязнасці "выбару" першай прыгажуні нашага райцэнтру.

Справа ў тым, што спачатку елку на цэнтральны пляц было вырашана браць у вёсцы Чурылава. Прыгажуня расла на падворку аднаго з жыхароў, які запатрабаваў за яе ні больш ні менш, а прычэп дроў. З гаспадаром пагадзіліся, прыгажуню спілавалі, але пры пагрузцы ў дрэва адламалі самую прыгажосць – макаўку. Прычэп дроў за яе ўсё роўна прыйшлося аддаць, але елку мусілі выбіраць у другім месцы.

Але з другой прыгажуняй не пашанцавала таксама. Калі спілаванае дрэва грузілі на трал, у елкі абламаліся лапкі. Як распавядаў мой знаёмы, яно так і засталося ляжаць каля паварота на Сватаўку. І толькі трэцяе дрэва заняло на плошчы тое месца, на якое не трапілі першыя дзве прыгажуні. Іхні шлях да плошчы, на вялікі жаль, закончыўся трагічна.

Так што тыя фотаздымкі, якія вы бачылі ў "Зары", адносяцца да той, трэцяй елкі. У раённай газеце падрабязна распісаны дзеянні ўсіх, хто прымаў удзел у спецаперацыі. Ёсць ледзь не пахвілінны каментар, як адбываўся працэс спілоўвання і пагрузкі. У газеце няма аднаго: горкай праўды пра дзвюх папярэдніц, якую, несумненна, трэба б было ведаць усім.

Дарэчы, падобныя праблемы з елкамі ўзнікаюць ледзьве не штогод. То елку пашкоджаць пры пагрузцы, то начальству яна не спадабаецца. Вось і снуюдаюцца рабацягі з кучай тэхнікі туды-сюды, паляць паліва, марнатравяць рэсурсы. Але ў нашых дзяржвыданнях пра тое ні слова.

І падобная падача інфармацыі сёння характэрна для дзяржаўных СМІ, пра што б яны ні пісалі. Бо яны кіруюцца няпісаным правілам: пра ўладу або паказваць усё добрае. Тое ж адбываецца, калі справа тычыцца чыноўнікаў і іхніх дзеянняў. І толькі калі справа датычыцца людзей, якія маюць іншы погляд на рэчы, што адбываюцца ў нашай краіне, тады дзяржаўныя СМІ не шкадуюць чорнай фарбы, або замоўчваюць факты. Вось і задумайцеся: ці такімі мусяць быць сапраўдныя СМІ ў нашым жыцці?

**Г.Станкевіч.**

## "КРЫВІНКА" Ў ІНТЭРНЭЦЕ

У сувязі з праблемай размяшчэння газеты "Крывінка" на партале http://haradok.belarda.org/ наша газета стала будзе размяшчацца на партале **http://kamunikat.org/**, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: **http://kamunikat.org/kryvinka.html**, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.

## ПРАВЯРАЮЧЫЯ

Іх развялося столькі, што куды ні плюнь – не прамахнешся. Амаль штотыдзень любы раён правяраюць, то бок збіраюць праўдзівую інфармацыю аб стане тутэйшых рэчаў. Правяраюць на запыт розных установ: найчасцей па лініі шматлікіх Міністэрстваў ці Адміністрацыі Прэзідэнта. Менавіта гэтыя ўстановы, каб даведацца пра сапраўдны стан рэчаў, ўтвараюць камісіі. У склад камісій, як правіла, уваходзяць не першыя асобы, а іхнія намеснікі. Такіх у кожным міністэрстве хоць гаць гаці, а таму кожны раён амаль штотыдзень трапляе пад суцэльнае "бамбаванне" па розных пытаннях.

Калі наноў утвораная камісія наведвае раён, яна, зразумела, пачынае з райвыканкаму, дзе знаёміцца з спецыялістамі, якія вядуць правяраемую галіну. Што правяраецца? У першую чаргу паперы. Розныя праграмы і планы мерапрыемстваў па выкананню якойсьці комплекснай праграмы. Потым праверцы падлягае стан спраў на месцах. Гэта значыць, правяраючым трэба паказаць, як ідзе рэалізацыя тых праграм. А потым, у залежнасці ад уражання камісіі, на павестцы дня стаіць альбо банкет з удзелам усіх зацікаўленых асобаў (зразумела, за чые грошы), або пішацца папера аб негатывах, і тады банкет адмяняецца.

Наколькі аб'ектыўна інфармуюць камісіі тыя структуры, якія іх накіроўваюць? Трэба прызнаць, даволі аб'ектыўна. Але гэта вельмі дарагое інфармаванне. Акрамя таго, што тысячы і тысячы інспектараў атрымоўваюць вялізныя заробкі па месцу працы, яны на цэлыя тыдні дэзарганізуюць работу на месцах, адрываючы ад стваральнай працы(калі такая бывае) мясцовых чыноўнікаў. Такое выкідванне гіганцкіх грашовых содкаў могуць сабе дазволіць толькі краіны з аўтарытарнымі рэжымамі і поўнай адсутнасцю рынкавых адносін. У краінах з рынкавай эканомікай сам рынак выступае лепш за любога правяраючага. Пры гэтым рынку нікому не трэба даваць хабар, які непазбежна ўзнікае пры наяўнасці праверак у тым ці іншым выглядзе.

Народны досвед кажа, што любога правяраючага можна лёгка ўвесці ў зман. Пацёмкінскія вёскі, смачныя пачастункі, паляванне ці рыбалка… Калі хочаш захаваць цёпленькае месцайка, навучышся многаму.

**У.Ліпскі.**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

## ХТО НАВЯДЗЕ ПАРАДАК НА ЗЯМЛІ?

З паседжання ў паседжанне нашых чыноўнікаў з павесткі дня не здымаецца пытанне, якое вынесена ў загаловак гэтага артыкулу. Дарма што, здаецца, 2010-ы год быў аб'яўлены годам навядзення парадку на зямлі, парадку таго аніяк не паболела ні за той год, ні за наступны. Але, нягледзячы на тое, што праводзяцца семінары па дабраўпарадкаванню і штрафуюць адказных асобаў, зараслыя бур'янам мехдвары, склады і фермы з'яўляюцца прывычнымі для вока сённяшняга беларуса.

Штогод "прыводзіцца ў парадак" сотні гектараў самай празнай тэрыторыі. Але сотні іншых гектараў услед зарастаюць кустоўем і быльнягом. Прычым зарастаюць не толькі кінутыя прысядзібныя надзелы і падворкі, дзе гаспадары нямоглыя ці паўміралі. Гэта зямля ляжыць далёка ад начальніцкага вока. Чыноўнікаў жа турбуе тое, што пад самым носам. Бо сюды рэгулярна патыкаецца вока правяраючых, якое фіксуе для "шэфа" ўсе мінусы. А таму, каб не трапіць на аловак і не страціць грашовую пасаду, на славутае "навядзенне парадку" накіроўваюцца вялізныя сродкі. Такія ў сапраўднага гаспадара ніколі на такія патрэбы не расходуюцца. Бо сапраўдны гаспадар не "наводзіць парадак", а толькі рэгулярна падтрымлівае яго.

Чаму ж нашы чыноўнікі мусяць з году ў год спяваць адну і тую ж жаласную песню? Ды ўсё таму, што сутнасць нашых сельгаспрадпрыемстваў засталася ранейшай, то бок савецкай. Калі ўсё наўкол калгаснае і ўсё наўкол нічыё. Калі лічыцца, што той дома не гаспадар, хто ў калгасе не злодзей. Працуюць на гэтых "сучасных" беларускіх сельгаспрадпрыемствах па-ранейшаму з-пад палкі і вельмі часта за мізэрную зарплату. І нават лідэры, тыя 5 – 10 механізатараў і столькі ж жывёлаводаў, якія крыху зарабляюць, на якіх і трымаецца калгас, маюць нашмат менш, чым мелі б, калі б былі гаспадарамі на сваёй зямлі.

Але даць людзям такую магчымасць – значыць падпісаць смяротны прыгавор дзесяткам тысяч чыноўнікаў, апірышчу сучаснага беларускага рэжыму.

**Л.Паўлава.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць, то таксама патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Крывінкі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Крывінка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# Плата за навучанне

Згодна Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь адукацыя ў нашай краіне бясплатная. Але ад гэтай аксіёмы, такой прывычнай за савецкімі часамі, прыходзіцца пакрысе адвыкаць. Нават у школах бацькам сёння прыходзіцца плаціць за дзіцячыя падручнікі. Што ўжо казаць пра навучанне ў ВНУ!

На некаторыя спецыяльнасці ў ВНУ доля бясплатных (бюджэтных) месцаў складае толькі 5 –10 %. А платы для небюджэтнікаў сёння давалі высокія. Тым больш, што пасля абвалу беларускага рубля яны маюць устойлівую тэндэнцыю яшчэ больш падвышацца. Так, напрыклад, згодна дамовы, у Полацкім дзяржаўным універсітэце напрыканцы жніўня плата за адзін год навучання на фінансава-эканамічным факультэце складала 4 мільёны 600 000 беларускіх рублёў. Але ўжо 28-га лістапада платнікі атрымалі "падарунак" ад універсітэта ў выглядзе падвышэння платы на суму 820 000 рублёў. То бок, агульная сума платы за адзін год навучання склала 5 мільёнаў 420 000 рублёў.

Ці пад'ёмныя такія сумы для бацькоў, якія не атрымоўваюць штомесяц трох-пяцімільённых чыноўніцкіх акладаў, няхай вырашаюць чытачы газеты. Як і тое, ці супярэчыць гэта плата за навучанне нашай Канстытуцыі – галоўнаму Закону, па якому мусіць жыць краіна, дзе чорным па беламу запісана зусім іншае.

**М.Васільеў.**

# ДРУГОГА ШЛЯХУ НЯМА

16–га снежня ў раённай газеце з'явіўся артыкул "Свой чытач ёсць і ў беларускай літаратуры". З яго можна было даведацца, што ў райцэнтраўскай кнігарні "Культтавары" ёсць творы беларускіх пісьменнікаў і назаўтра рушыў туды.

Там сярод дзесяткаў тысяч (!!!) рускамоўных выданняў я з цяжкасцю адшукаў беларускамоўныя. Яны, нібы Папялушка, у колькасці не больш за пяцьдзясят (!!!) асобнікаў туліліся на самым ускрайку чужога кніжнага акіяну.

Але мне нечакана пашанцавала. Сярод гэтых пяцідзесяці беларускамоўных кніжачак я адшукаў аповед "Урокі першага кахання" Валерыя Гапеева і зборнік апавяданняў "Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца". Я даўно чуў, што такія кнігі з'явіліся, але набыць іх пакуль што не меў магчымасці. Абедзве кніжкі выдадзены сёлета ў серыі "Пераходны ўзрост" накладам у 2 000 асобнікаў кожная. Першая кніга прадназначана для дзяцей старэйшага, а другая – сярэдняга ўзросту.

Я запытаўся ў загадчыцы, ці шмат такіх кніжак атрымала наша кнігпрня. Аказалася, што на цэлы раён з амаль паўтысячным кантынгентам чытачоў гэтых узростаў, у райцэнтраўскую кнігарню дайшлі толькі па аднаму асобніку кожнай кнігі. Вось так.

У краіне Беларусь, якая сёння літаральна задыхаецца ад дзіцячых суіцыдаў і захлёбваецца гарэлкай, для выхавання падрастаючага пакалення дэпутатамі абедзвюх Палат быў прыняты бюджэт, у якім хапіла грошай выдаць толькі 4 000 асобнікаў кніжак для дзетак на ўсю краіну. Кніжак, дзе адлюстроўваюцца і вырашаюцца праблемы тых жа дзетак. Кніжак, якія выхоўваюць патрыятызм. Кніжак, якія хоць на адзін крок, а пашыраюць данельга звужаную сферу ўжывання роднай мовы.

Праблемы нашага грамадства, пра якія сёння ведае кожны, узніклі даўно. Іхнія карані знаходзяцца ў далёкім 1937-м, калі была поўнасцю знішчана беларуская інтэлігенцыя. У тым ліку сотні беларускіх пісьменнікаў. Іх расстралялі за тое, што яны пісалі па-беларуску. Што яны хацелі абудзіць беларусаў, прымусіць іх стаць народам.

І сёння, з кожным выпадкам суіцыду, з кожным загубленым лёсам нам балюча адгукваюцца тыя растрэлы. Колькі б людзей маглі б сёння ўратаваць тыя ненапісаныя растраляныя ў 1937-м кнігі!

Але ж і тое, што напісана, мусіць чытацца. Дык калі ж мы зможам запатрабаваць у поўны голас ад нашых чыноўнікаў: дзе нашыя кніжныя крамы, паліцы якіх ломяцца ад кніжак беларускіх пісьменнікаў, высакамаральных і патрыятычных?! Дзе знайсці кнігі Купалы і Коласа, Быкава і Караткевіча, Арлова і Някляева, Гілевіча і Барадуліна, Бураўкіна і Законнікава, Іпатавай і Геніюш?!

Іх не выдаюць дзяржаўныя выдавецтвы, бо беларускія чыноўнікі, бальшыня з якіх не гаворыць па-беларуску, баяцца выдаваць такія кнігі. Яны справядліва лічаць, што начытаўшыся такіх кніжак беларус перастане быць быдлам. Ён скіне гэту антынародную ўладу, якая як чорт ладана баіцца беларускага слова.

Калі разабрацца, другога шляху нам не дадзена.

**Г.Станкевіч.**

НАВАГОДНІ ЭКСКЛЮЗІЎ

# ДЗЕД МАРОЗ ПРЫЕДЗЕ І НА ФЕРМУ

У кожным сельсавеце Полацкага раёна з'явіліся прыёмныя Дзеда Мароза, закліканыя стаць цэнтрамі душэўных зносінаў вяскоўцаў напярэдадні Новага года.

Калі хто-то паскардзіцца Дзеду Марозу на сваё жыццё-быццё, яго праблему паспрабуюць вырашыць прадстаўнікі сельсавета або сельгаспрадпрыемства. Але ўсё ж галоўная мэта новай ініцыятывы - стварэнне добрага настрою і святочнай атмасферы.

На агеньчык да мудрага гаспадара зімы могуць прыйсці і дзеці, і дарослыя: пасядзець, пажартаваць, абмеркаваць навіны. Але ён і сам будзе ездзіць у камандзіроўкі да сельскіх старажылаў, школьнікаў, жывёлаводаў і механізатараў. На дзвярах прыёмнай ў гэты час з'явіцца адпаведная таблічка. Напрыклад: «Дзед Мароз з'ехаў на ферму«Пятроўка».

Па словах намесніка старшыні райвыканкама Пятра Пяткевіча, падобная праца праводзілася і раней, але ёй не хапала каардынацыі. Зараз арганізатары праекта пастараюцца стварыць атмасферу перадсвяточнага ажыўлення ва ўсіх вёсках, адкрыць у сельсаветах своеасаблівыя пункты навагодняга абслугоўвання.

**Ларыса Малашэня, «Народнае слова».**



КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# СУСТРЭЧА З УЛАДЗІМІРАМ АРЛОВЫМ



22-га снежня ў кабінеце беларускай мовы райцэнтраўскай СШ №2 адбылася сустрэча вучняў і настаўнікаў школы з пісьменнікам У.Арловым.

Цягам цэлай гадзіны ён распавядаў вучням старэйшых класаў пра сваю біяграфію. Пісьменнік расказаў пра бацьку, які працаваў пракурорам горада Полацка, і пра маці, выкладчыцу гісторыі. Пра тое, як пры паступленні ён сам выбраў гістарычны факультэт БДУ, хаця бацькі настойвалі на Ленінградскай ваенна-медыцынскай акадэміі.

Многія прысутныя ўпершыню даведаліся, што да беларускага слова Уладзімір ішоў цярністымі шляхамі. Думаецца, досыць аднаго прыведзенага факту, што з творамі Уладзіміра Караткевіча ён пазнаёміўся толькі ў студэнцкія гады.

З вуснаў Уладзіміра цікава было пачуць, што за ўвесь час свайго навучання ў БДУ (а гэта адбывалася ў сямідзесятыя гады мінулага стагоддзя), пісьменнік, які піша на гістарычныя тэмы, не вывучаў сапраўднай гісторыі Беларусі, бо яе тут не выкладалі. Падрабязна выкладалі гісторыю Японіі і Кітая, і Уладзімір і сёння выдатна помніць дынастыі ўсіх кітайскіх імператараў старажытнасці. Вось тады да яго, як і да ягоных сяброўаднакурснікаў, прыйшла здагадка: ці не хаваюць ад нас свядома сапраўдную гісторыю Беларусі. Бо чалавекам, які не ведае сваіх гістарычных каранёў, вельмі лёгка кіраваць.

На ягоную думку, айчынных герояў доўгі час падмянялі ў кніжках безаблічнымі словамі "народныя масы", якія падмаліся на барацьбу з прыгнятальнікамі. Але простаму чалавеку хочацца быць на кагосьці падобным, на кагосьці канкрэтнага, а не на нейкія бязлікія "масы". І таму адкрыццю сваіх родных забытых герояў, бальшыня з якіх паклала галовы на алтар захавання Беларусі як самастойнай краіны, пісьменнік аддаў значную частку свайго жыцця. Кароценькія біяграфіі 265-і імён такіх людзей, якія так ці інакш паўплывалі на лёс аўтара, У. Арлоў сабраў і выдаў у кнізе "Імёны свабоды". За кароткі час кніга вытрымала аж тры выданні, што сведчыць пра незгасальную цікавасць да яе. Набывалі "Імёны свабоды" і ў Бешанковічах – пасля сустрэчы з пісьменнікам з ягоным аўтографам. Тады ж аўтар шматлікіх гістарычных кніжак падараваў сваю апошнюю выдадзеную кнігу "Ля дзікага поля" і некалькі аўдыёкніг школьнай бібліятэцы. Не засталася без падарунка і аўтарка самага цікавага, на думку Уладзіміра, пытання да яго. Аўтар гэтага артыкулу атрымаў у падарунак кнігу А.Лукашука "След матылька", пра якую чытачы "Крывінкі" ўжо ведаюць. Калі хтосьці з Вас зацікавіцца ёю, тэлефануйце, падзялюся.

Ужо праз дзве гадзіны пасля прыезду У.Арлоў пакідаў Бешанковічы. Яго чакаюць новыя кнігі, новыя сустрэчы з чытачамі. Нам жа застаецца толькі падзякаваць Ірыне Вітольдаўне Мачульскай, настаўніцы беларускай мовы, чыя няўрымслівасць дапамагла арганізаваць сустрэчу з Пісьменнікам, за незабыўныя імгненні той сустрэчы.

**Г.Станкевіч.**

# "НА ВОЗЕРЫ БЕЛЫМ"

Так называецца першая кніга Наталлі Галавач (Бондар), якая толькі што выйшла ў выдавецтве "Кнігазбор". Тыраж кніжачкі невялікі, усяго 150 асобнікаў, бо выдавалася яна за кошт аўтаркі, а гэта для шараговага беларуса пакуль што дарагое задавальненне. Наталля Галавач працуе выкладчыкам Бешанковіцкай школы мастацтваў па класе фартэпіяна і нязменным кіраўніком узорнага ансамбля "Званіца".

Наталля піша вершы і музыку. Менавіта таму мноства яе вершаваных твораў прысвечана музыцы і музыкам. Сярод іх Міхал Клеафас Агінскі, аўтар знакамітага паланэзу "Развітанне з Радзімай", і Фрэдэрык Шапэн, які, па словах аўтаркі, "замінае ачарсцвець душою".

Шмат Наталліных вершаў прысвечана Радзіме: роднай зямлі, якая нас узгадавала, продкам, якія згінулі ў віхуры трыццаць сёмага, каханню. Змест ейных твораў самы разнастайны: ад лёгкай лірыкі да філасофскага роздуму:

*"Усе мы прараслі з зямлі.*
*Як колас жытні, як ключы крыніцы,*
*Што б'юць штодня. Бягуць ад веку ў век.*
*Калі б мог сёння кожны чалавек*
*Адведаць той крынічнае вадзіцы*
*І усвядоміць думку спакваля,*
*Што перад Богам трэба павініцца, –*
*Якая б стала шчасная Зямля!"*

Аўтарка валодае сваім адметным стылем. Вершы, якія здаюцца на першы погляд простымі і паблаванымі з простага матэр'ялу, пры ўнікліівым чытанні пачынаюць спяваць і пераліваюцца ўсімі колерамі вясёлкі. Яны шматгранныя і шматпланавыя. І, у залежнасці ад настрою чытача, на паверхню выходзіць то той, то іншы матыў.

Зразумела, вершы можна за штосьці і крытыкаваць. З гледзішча строгага крытыка, на Сонцы таксама ёсць плямы. Але ж ад гэтага Сонца не перастае быць крыніцай жыцця. Пакінем таму размовы пра "недакладнасць рыфмы ці невыразнасць моўных сродкаў" тым асобам, якія без гэтага не могуць жыць. А самі шчыра парадуемся таму, што паміж нас на гэтай зямлі жыве няўрымслівы мастак з чулай душой. І пажадаем Наталлі шчаслівага доўгага жыцця, новых вершаў і плённай працы на музычнай ніве.

**Г.Станкевіч.**

# Краязнаўчая вандроўка

Чарговую вандроўку 18 снежня зладзілі ўдзельнікі МГА "Гісторыка". У гэты раз краязнаўца Мікола Півавар распавядаў пра гістарычныя і архітэктурныя скарбы Чашніцкага і Бешанковіцкага раёнаў.

Удзельнікі падарожжа пабачылі радзіму Льва Сапегі, палацы Храбтовічаў, Валадковічаў, у прамым сэнсе мелі магчымасць дакрануцца да гісторыі ў краязнаўчым музеі, што створаны пры школе ў Іванску беларускім краязнаўцам Віктарам Вільгельмавічам Грыбко.

Яшчэ пабачылі былы "дуб Напалеона" у Бешанковічах, ад якога цяпер застаўся толькі пень… Дрэва нібыта прыйшло ў нягоднасць, захварэла, і мясцовыя ўлады вырашылі яго спілаваць. Хаця насамрэч на ім паявілася толькі маленькая падсохласць, якая лечыцца. Дубу было каля двухсот гадоў. Дарэчы, у Еўропе падобныя дрэвы ахоўваюць, ратуюць спецыяльнымі метадамі.

Таксама група наведала рэшткі сядзібы ў Нізгалаве, парк "Саломінка", які быў заснаваны Уладзімірам Красавіцкім у вёсцы Дабрыгоры.

**Крысціна Партоліна.**

МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

# ЛІСТЫ БУША І ГАВЭЛА БЕЛАРУСКІМ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ

НАПЯРЭДАДНІ КАЛЯДАЎ І НОВАГА ГОДУ БЫЛЫ ПРЭЗЫДЭНТ ЗША ДЖОРДЖ БУШ І ПРЭЗЫДЭНТ ЧЭХІІ ВАЦЛАЎ ГАВАЛ ДАСЛАЛІ ЗА КРАТЫ ЛІСТЫ БЕЛАРУСКІМ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ.

"Напярэдадні Раства і Новага году я адпраўляю пасланьне міру і надзеі народу Беларусі.

Палітычным зьняволеным і іх сем»ям — Андрэю Саньнікаву, Міколу Статкевічу, Мікалаю Аўтуховічу, Зьміцеру Бандарэнку, Алесю Бяляцкаму, Зьміцеру Дашкевічу, Эдуарду Лобаву і Паўлу Севярынцу — я хачу выказаць сваё захапленьне вашай адданасьцю будучай Беларусі, свабоднай і дэмакратычнай.

На мінулыя Каляды мы разам з вашымі шматлікімі прыхільнікамі чыталі імёны сотняў людзей, якія перамаглі страх і былі затрыманыя падчас пратэстаў супраць сфальшаваных выбараў. Хоць бальшыня была вызваленая, многія з вас застаюцца ізаляванымі ад вашых блізкіх і сяброў за вашыя мужныя ўчынкі дзеля свабоды.

На працягу гэтага году сьвет пабачыў нечаканы ўзыход свабоды ў Тунісе, Эгіпце і іншых краінах, якія, на думку шмат каго, былі несумяшчальныя са свабодай. Свабода — усеагульная, і прыдзе дзень, калі яна будзе зьзяць у самых змрочных кутках зямлі.

У гэты сьвяточны час мы мусіце ведаць, што пра вас не забыліся. Лора і я пасылаем нашыя віншаваньні вам і вашым сем»ям, і мы будзем думаць і маліцца пра вас.

Няхай вас блаславіць Бог, каб вы былі на свабодзе і разам з тымі, каго любіце, у 2012.

**Джордж Буш.**
**22 сьнежня 2011.**

**Вацлаў Гавал віншуе беларускіх палітвязьняў**

"Дарагія сябры. Хацеў бы сардэчна вас павіншаваць на парозе новага году і пажадаць вам і вашым блізкім, каб ён быў лепшым, чым мінулы. Выказваю салідарнасьць з вашай пазыцыяй і буду і надалей выкарыстоўваць усе магчымасьці, каб разам са сваімі сябрамі зьвяртаць увагу міжнароднай грамадзкасьці на парушэньне грамадзянскіх правоў у Беларусі.

Жадаю усяго добрага вам і свабоды вашай краіне.

**Вацлаў Гавэл.**
**Градэчэк, 15.12. 2011".**


Reuters

НАША ЖЫЦЦЁ

# БЕЛАРУСАМ ДАВОДЗІЦЦА ЖЫЦЬ НА СТО ДАЛЯРАЎ У МЕСЯЦ

КРЫЗІСНЫЯ З'ЯВЫ Ў ЭКАНОМІЦЫ ПРАМЫМ ЧЫНАМ АДБІЛІСЯ НА ДАБРАБЫЦЕ НАСЕЛЬНІЦТВА. СТАТЫСТЫКА КАЖА АБ ТЫМ, ШТО ПРЫКЛАДНА ТРАЦІНА СУАЙЧЫННІКАЎ МОГУЦЬ ДАЗВОЛІЦЬ ВЫДАТКАВАЦЬ НА СЯБЕ Ў МЕСЯЦ НЕ БОЛЬШ ЗА 900 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ. У ЭКВІВАЛЕНЦЕ - КРЫХУ БОЛЬШ ЗА 100 ДОЛАРАЎ. НА ФОНЕ РОСТУ КОШТАЎ НЕСКЛАДАНА ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО ЯКАСЦЬ СПАЖЫВЕЦКІХ РАСХОДАЎ БЕЛАРУСКІХ СЕМ'ЯЎ КАРЭННЫМ ЧЫНАМ ЗМЯНІЛАСЯ.

**Бюджэт беларускіх сем'яў**

Даведацца пра тое, як змяняецца дабрабыт беларускіх сем'яў, дазваляе выбарачнае абследаванне хатніх гаспадарак, якое праводзіцца Белстатам.

Дадзеныя апошняга выбарачнага абследавання (за трэці квартал), паказваюць, што больш за 35% беларускіх сем'яў маюць даход на аднаго члена сям'і да 900 тыс. рублёў.

| сума, якой валодае адзін член сям'і | колькасць сем'яў з адпаведным узроўнем даходу (у%) |
|---|---|
| да 900 тысяч рублёў | 35,1% |
| ад 900 тысяч да 1,5 млн. рублёў | 40,7% |
| ад 1,5 млн. рублей да 2 млн. рублёў | 13,6% |
| больш 2 млн. рублёў | 10,6% |

У пачатку бягучага года беларускія сем'і маглі выдаткаваць на сваіх дамачадцаў значна больш грошай. Паводле даных выбарачнага абследавання хатніх гаспадарак, у першым квартале колькасць сем'яў са сярэднедушавым даходам да 100 даляраў (300 тыс. рублёў) складала па краіне толькі 1,9%! Многія сям'і ў пачатку года маглі выдаткаваць на кожнага дамачадца і 200, і 300, і нават 400 даляраў.

У трэцім квартале мы бачым іншую карціну. Самая вялікая група беларускіх сем'яў (40,7%) можа выдаткаваць на аднаго члена сям'і ад 900 да 1,5 млн. рублёў, гэта значыць у лепшым выпадку 180 даляраў.

У пачатку года найбольш шматлікай групай былі сем'і са сярэднедушавым даходам больш за 200 даляраў. Больш за палову (50,6%) беларускіх сем'яў маглі выдаткаваць у першым квартале на кожнага дамачадца ад 200 да 400 даляраў.

Увогуле, тэндэнцыя не радуе. Магчыма, у пачатку 2012-га сітуацыя з дабрабытам насельніцтва некалькі палепшыцца. Беларускія ўлады раней заяўлялі, што маюць намер у бліжэйшы час пайсці на павышэнне заробкаў. Ходзяць упартыя чуткі, што стаўка першага разраду, да якой прывязаныя зарплаты бюджэтнікаў, у пачатку наступнага года можа павялічыцца з цяперашніх 151 тыс. да 200 тыс. рублёў. Галоўнае, каб рост заробкаў, як гэта бывае ў нас, зноў не справакаваў рост коштаў.

**На што беларускім сем'ям хапае грошай**

Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў калісьці ў гэтым годзе заўважыў, што не варта вымяраць беларускія заробкі ў даляраx. «Казаць аб зніжэнні заработнай платы ў доларавым эквіваленце некарэктна. У нас даляр не з'яўляецца валютай плацяжу ў крамах і валютай плацяжу ў камунальныя паслугі », - падкрэсліваў летам гэтага года міністр эканомікі.

Сапраўды, цэны ў беларускіх крамах указаны не ў доларах, а ў рублях. Аднак нават супастаўленне заробкаў з рублёвымі коштамі ў крамах кажа аб тым, што пакупная здольнасць беларускіх сем'яў за гэты год рэзка знізілася.

Мы паказалі вышэй, што прыкладна траціна беларускіх сем'яў маглі выдаткаваць у трэцім квартале на сваіх дамачадцаў у месяц не больш за 900 тыс. рублёў. Прапануем параўнаць, што на гэтыя грошы можна было купіць у студзені гэтага года і ў верасні (табл.2).

**Кошт мінімальнага набору прадуктаў харчавання, па дадзеных**

| тавар | колькасць тавару (кг), якое можна было купіць у студзені | колькасць тавару (кг), якое можна было купіць у верасні |
|---|---|---|
| тварог | 97,9 | 65,6 |
| макаронные вырабы | 285 | 147,1 |
| жывёльны алей | 46,2 | 29,5 |
| рыс | 191,4 | 76 |
| рыба марожаная | 123,6 | 42,3 |
| тушкі курэй | 100,5 | 44,1 |
| яблыкі | 226,1 | 132,8 |

**Белстата, павялічыўся ў студзені-верасні ў 1,8 разы.**

Так што, як бачым, нават калі забыцца пра даляры, «які ў нас не з'яўляецца валютай плацяжу», у рублях пакупніцкая здольнасць беларускіх сем'яў таксама прыкметна ўпала. Хочацца, аднак, спадзявацца, што матэрыяльныя магчымасці беларусаў усё ж такі вырастуць. Таму што наўрад ці краіну, дзе людзі жывуць на 100 даляраў у месяц, можна называць «моцнай і квітнеючай».

* Разлікі на аснове сярэдніх цэн Белстата.

**Дзмітрый Заяц, БЕЛАПАН.**

ПАМЯЦІ ВАЦЛАВА ГАВЭЛА

# «СІЛА БЯССІЛЬНЫХ»

ПА ЎСХОДНЯЙ ЕЎРОПЕ БЛУКАЕ ПРЫВІД, ЯКІ НА ЗАХАДЗЕ НАЗЫВАЮЦЬ «ДЫСІДЭНЦТВА».

Гэты прывід - не спараджэнне нябёсаў. Ён арганічна ўласцівы сістэме, якая ў цяперашняй фазе свайго гістарычнага развіцця ўжо даўно не абапіраецца, а па шэрагу прычын і не можа абапірацца, на непрыкрытае і жорсткае беззаконьне ўлады, якое выключае любыя праявы нонканфармізму. А з іншага боку, гэтая сістэма настолькі палітычна інэртныя, што фактычна не дапускае ніякага пратэсту ў сваіх афіцыйных структурах.

Хто ж, уласна, яны, гэтыя так званыя «дысыдэнты»? На чым заснавана іх пазіцыя і ў чым яе сутнасць? У чым сутнасць «незалежных ініцыятываў», якія аб'ядноўваюць дысідэнтаў, і наколькі рэальныя шанцы ў гэтых ініцыятыў? Ці дарэчы ўжываць у дачыненні да іх дзейнасці паняцце «апазіцыя»? Калі так, то чым, уласна, такая «апазіцыя» - у рамках гэтай сістэмы - з'яўляецца, якім чынам дзейнічае, якую ролю ў грамадстве гуляе, на што спадзяецца і на што можа спадзявацца? Ці пад сілу наогул дысідэнтам - як людзям, якія знаходзяцца па-за ўсякімі ўладнымі структурамі ў становішчы свайго роду «паўграмадзян», - якім-небудзь чынам уплываць на грамадства і грамадскую сістэму? Ці могуць яны наогул што-небудзь змяніць?

(...)

Між інтэнцыямі посттаталітарнай сістэмы і інтэнцыямі жыцця прасціраецца прорва: у той час, як жыццё арганічна імкнецца да плюралізму і шматкаляровасці, да незалежнасці самавызначэння і самаарганізацыі, карацей кажучы, да рэалізацыі сваёй волі, посттаталітарнага сістэма, наадварот, патрабуе маналітнасці, аднастайнасці, дысцыпліны, у той час, як жыццё імкнецца ствараць усе новыя і новыя неверагодныя «структуры», посттаталітарнага сістэма навязвае ёй «самыя неверагодныя станы».

Лёгка ўявіць сабе грамадства, якое мае добрыя законы, у якім гэтыя законы выконваюцца цалкам і ў якім пры гэтым немагчыма жыць. І можна, наадварот, прадставіць цалкам цярпімае жыццё пры недасканалых або калі недасканала прымяняюцца законы. У выніку галоўнае ў тым, якое само жыццё і служаць яму законы ці ж яны яго душаць, а ні ў якім выпадку не ў тым, ці выконваюцца яны ці не (у рэшце рэшт, часта іх літаральнае выкананне можа стаць для годнага жыцця самай вялікай катастрофай).

Ключы да чалавечага, годнага, забяспечанага і шчаслівага жыцця не захоўваюцца ў канстытуцыі або ў крымінальным законе: тыя толькі рэгламентуюць, што можна і чаго нельга, тым самым жыццё палягчаючы або ўскладняючы, абмяжоўваючы ці не абмяжоўваючы, караюць, прынараўліваюцца або захоўваюць яго, але ніколі не напаўняюць яе зместам і сэнсам.

Улада знаходзіцца ў палоне ва ўласнай хлусні, таму і звяртаецца да фальшу. Фальсіфікуе мінулае. Фальсіфікуе сучаснасць і фальсіфікуе будучыню. Падтасоўваюць статыстычныя дадзеныя. Робіць выгляд, быццам бы ў яе няма ўсёмагутнага і здольнага на ўсе паліцэйскага апарата. Прыкідваецца, што паважае правы чалавека. Прыкідваецца, што ні ў чым не прыкідваецца.

Чалавек не абавязаны ўсім гэтым містыфікацыям верыць. Аднак ён павінен паводзіць сябе так, нібы верыць ім; па меншай меры, моўчкі захоўваць талерантнасць ці хаця б быць у ладу з тымі, хто гэтыя містыфікацыі ажыццяўляе. Ужо хоць бы таму чалавек вымушаны жыць у хлусні. Ён не павінен прымаць хлусня. Дастаткова, што ён прыняў жыццё, якая неаддзельная ад хлусні і немагчымая па-за хлусні. Тым самым ён сцвярджае сістэму, рэалізуе яе, успрымае яе, з'яўляецца ёю.

**Вацлаў Гавэл, 1978 г.**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# БЕЛАРУСКІ БІЗНЭС НЕ ВЕРЫЦЬ У СПРАВЯДЛІВУЮ АМНІСТЫЮ КАПІТАЛУ

УБЕЛАРУСІМОЖАБЫЦЬПРАВЕДЗЕНААМНІСТЫЯКАПІТАЛУ.ПАВОДЛЕІНФАРМАЦЫІНАМЕСНІКАДЫРЭКТАРА ЦЭНТРА АБАРОНЫ ПРАВОЎ УЛАСНАСЦІ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ КАНФЕДЭРАЦЫІ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА ІГАРА ЛЕДНІКА, НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ ПАПЯРЭДНЕ ЎЖО ПРЫНЯТА ТАКОЕ РАШЭННЕ.

Аднак эксперты сумняюцца, што ўладам, якія б стымулюючыя меры яны ні прынялі, ці ўдасца легалізаваць вялікія аб'ёмы ценявых рэсурсаў. Хто ў разумным розуме купіцца на амністыю капіталу ў краіне, дзе не працуюць законы, дзе ва ўладзе сем пятніц на тыдні і дзе рашэнні могуць прымацца і адмяняцца заднім лікам?

Між іншым, ініцыятыва разгледзець пытанне аб правядзенні амністыі капіталу зыходзіць ад Аляксандра Лукашэнкі. Такое даручэнне прэзідэнт даў ураду і Нацбанку яшчэ 30 жніўня на нарадзе па пытаннях сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

Пагадзіцца на правядзенне амністыі капіталу беларускія ўлады вымушаныя з-за вострага недахопу фінансавых рэсурсаў, і гэта відавочна. У сваім лісце ад 14 верасня на імя прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча гэта пацвярджае і кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова.

«У сітуацыі, якая ў цяперашні час напружанай сітуацыі ў фінансавай сферы і ў эканоміцы ў цэлым патрабуецца прыняцце дадатковых эфектыўных мер па стымуляванню прыцягнення ў законны эканамічны абарот фінансавых рэсурсаў, у тым ліку ценявых даходаў і капіталу. У сувязі з гэтым рэалізацыя комплексу мерапрыемстваў па легалізацыі даходаў і амністыі капіталу, мяркуем, вельмі актуальная », - гаворыцца ў лісце.

Пакрысь патрэбнасці ў фінансаванні дазваляюць прамыя замежныя інвестыцыі. Але іх прыцягненне ў сувязі з неспрыяльным інвестыцыйным кліматам ідзе туга. «У гэтым годзе планавалася прыцягнуць 6,5 млрд. даляраў прамых замежных інвестыцый. Па факце мы маем 3,8 млрд. даляраў з улікам продажу «Белтрансгаза». Пры гэтым у рэальны сектар эканомікі было накіравана толькі 770 млн. даляраў », - канстатуе Балточка.

Сітуацыю з інвестыцыямі ў асноўны капітал таксама нельга назваць паспяховай. Па факце за 10 месяцаў аб'ём інвестыцый вырас на 14,3% у параўнанні з паказчыкамі за аналагічны перыяд мінулага года. «Але рост адбыўся шмат у чым за кошт дэвальвацыі беларускага рубля», - звяртае ўвагу эксперт.

Шэраг фактараў паказваюць на тое, што ў Беларусі высокая патрэбнасць правесці амністыю капіталу. І бізнес-супольнасць падтрымлівае гэты крок. Па словах прадстаўніка дзелавых колаў Ігара Ледніка, амністыя разглядаецца перш за ўсё як інструмент павышэння эканамічнай бяспекі.

«З аднаго боку, за кошт атрыманых дадатковых падаткаў папаўняецца бюджэт, з другога - фінансавыя рэсурсы ўключаюцца ў эканамічны абарот, дапамагаючы ажыццяўляць мадэрнізацыю прадпрыемстваў і павышаць якасць вырабляемай прадукцыі», - адзначае эксперт.

Як падкрэслівае, у сваю чаргу, Антон Болточко, амніставаць ёсць што. «Яшчэ ў 2007 годзе Сусветны банк ацэньваў памер ценявой эканомікі ў Беларусі на ўзроўні 53% ВУП. Цяпер, я думаю, ён складае ўжо больш за 60%. Адтуль і трэба браць грошы, інакш ценявая эканоміка пачне кіраваць намі », - адзначае эканаміст.

Аднак у рамках існуючага заканадаўства правесці амністыю капіталу немагчыма, перакана81 саветнік Міжнароднай фінансавай карпарацыі Валеры Фадзееў. «Калі прыняць заканадаўчы акт аб амністыі капіталу, але пры гэтым нічога не памяняць у дзеючым заканадаўстве, мы не даб'емся поспеху», - пераканаты эксперт.

Сябра ініцыятыўнай групы па стварэнні «Цэнтра права ЕЗ і прававога развіцця» Максім Корлюк адзначае і яшчэ адзін важны фактар. Насельніцтву і бізнэсу трэба перш за ўсё гарантаваць ананімнасць, а таксама даць гарантыі невыкарыстання вынікаў амністыі на шкоду бізнэсу. Па словах эксперта, такія гарантыі ў сукупнасці з іншымі фактарамі дазволілі шэрагу еўрапейскіх краін паспяхова правесці амністыю капіталу.

Так, напрыклад, Бельгія ў свой час за кошт амністыі капіталу фізічных асоб легалізавала 5,6 млрд. еўра, пры гэтым бюджэт паступіла каля 500 млн. еўра. Партугалія ў 2005 годзе такім чынам вярнула ў краіну 43,5 млрд. еўра.

Аднак што б ні вырашылі наверсе, праблема ў тым, што ў Беларусі гэты нумар не пройдзе. Насельніцтва і бізнес ужо настолькі не давяраюць уладзе, што ніякія запэўніванні ня пераканаюць вывесці капітал з ценю. Ужо не раз, абвясціўшы эканамічную лібералізацыю, улады давалі задні ход, і наіўныя прадпрымальнікі жорстка пакутавалі. Так, улады ўводзілі, а потым раптам адмянялі мараторый на праверкі, ўводзілі свабоднае цэнаўтварэнне, а потым каралі бізнэс за рост коштаў і змушалі адкручваць кошты назад. З амністыяй капіталу будзе тое ж самае, пераканаyыя эксперты. Капітал амністуюць, а ўладальнікаў гэтага капіталу потым пасадзяць, прычым з канфіскацыяй - і такі сцэнар выключаць нельга.

**Андрэй Кажамякін, БЕЛАПАН.**

ПРАЦОЎНАЯ ЭМІГРАЦЫЯ

# БЕЛОРУСАМ НУЖНЫ НОРМАЛЬНЫЕ ЗАРПЛАТЫ, А НЕ ПОСЛЕДНИЕ КОПЕЙКИ ИЗ БЮДЖЕТА

АЛЕКСАНДР ЛУКАШЕНКО НЕ СКЛОНЕН ПРЕУВЕЛИЧИВАТЬ ПРОБЛЕМУ ЭМИГРАЦИИ ИЗ БЕЛАРУСИ КВАЛИФИЦИРОВАННОЙ РАБОЧЕЙ СИЛЫ. ОДНАКО СПЕЦИАЛИСТЫ МАССОВО ПОКИДАЮТ БЕЛАРУСЬ.

На пресс-конференции 23 декабря официальный лидер рассказал о своем видении закрепления кадров в Беларуси. «Надо создавать выгодные условия для работы дома», — сказал глава государства.

Вместе с тем он подчеркнул, что «не склонен демонизировать проблему». Ведь человек ищет, где, лучше, как рыба — где глубже. «Одно дело работать в Беларуси за одну тысячу долларов, другое — в Москве за две тысячи», — заметил Лукашенко, пояснив, что если жить семье за одну тысячу долларов в Беларуси, это то же самое, что в Москве за две тысячи долларов.

«Можно жить на воде, на кусочке хлеба, но работать тогда каменщиком будет сложно, плитку укладывать и так далее», — отметил Лукашенко. Он подчеркнул, что жизнь в Москве сопряжена с риском и вспомнил недавний случай, когда шестеро белорусов в Москве погибли в пожаре. Гастарбайтеры жили в строительных бытовках. Понятно, что люди оказались в таких условиях, чтобы сэкономить на жилье и заработать в разы больше, чем могли бы в Беларуси.

### Из Беларуси бегут не от зарплаты в тысячу долларов

В Беларуси в ноябре по сравнению с октябрем 2011 года реальная зарплата (рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги) уменьшилась на 2,7%. Номинальная начисленная среднемесячная зарплата в январе-ноябре 2011 года составила 1 млн. 840,2 тыс. рублей (около 220 долларов), в том числе в ноябре — 2 млн. 439,7 тыс. (около 290 долларов) и по сравнению с октябрем 2011 года увеличилась на 5,2%, или на 121,7 тыс. рублей.

На промышленных предприятиях средняя зарплата в ноябре этого года составила 2 млн. 877,1 тыс. рублей. В частности, в строительных организациях — 2 млн. 661,8 тыс., в организациях транспорта и связи — 2 млн. 702,9 тыс., сельского хозяйства, охоты и лесного хозяйства — 1 млн. 681,8 тыс. рублей.

Максимальный размер средней зарплаты в ноябре по отдельным отраслям был зафиксирован в сфере финансовой деятельности — 4 млн. 148 тыс. рублей, минимальный — у работников сельского хозяйства, охоты и лесного хозяйства (1 млн. 682 тыс.).

В тоже время, в промышленности Московской области, где нашли себе применение немало белорусов, уровень средней зарплаты составляет почти 30 тысяч российских рублей, то есть около тысячи долларов.

Таким образом, очевидно, что в Россию белорусы, те же строители, бегут не с тысячедолларовых зарплат, а за ними.

Как считает Лукашенко, заработная плата должна расти, но только тогда, когда она будет заработана. «Если мы говорим о повышении зарплат, пенсий — и мы это делали несколько раз в этом году — мы не использовали эмиссионные деньги. Мы повышаем сегодня заработную плату, хоть понемножку, — я это обещал людям — пенсии, пособии и прочее только тогда, когда у нас есть деньги. Есть в бюджете деньги — последнюю копейку отдадим людям», — сказал Лукашенко. Однако, по его словам, «печатать деньги и платить людям нельзя, ибо это инфляция».

Читать полностью: http://naviny.by/

**Елена СПАСЮК, БЕЛАПАН.**

ШЛЯХ УЛАДАЎ

# КИТАЙСКИЕ «ЖИГУЛИ» – МЕЧТА ЛУКАШЕНКО И СЕМАШКО?

ВЛАСТИ УПОРНО НЕ ОСТАВЛЯЮТ ПОПЫТОК ПЕРЕСАДИТЬ БЕЛОРУСОВ НА ДЕШЕВЫЕ (ВО ВСЕХ СМЫСЛАХ) КИТАЙСКИЕ АВТО. НА ПЯТНИЧНОЙ ПРЕСС-КОНФЕРЕНЦИИ ВСЕХ ОШАРАШИЛ ВИЦЕ-ПРЕМЬЕР ВЛАДИМИР СЕМАШКО: УЖЕ ПОДПИСАН ДОГОВОР О СОЗДАНИИ СП С КОМПАНИЕЙ LIFAN. «САЛІДАРНАСЦЬ» ПРИСМОТРЕЛАСЬ К «ЧУДУ» КИТАЙСКОГО АВТОПРОМА.

– Сегодня министр промышленности доложил мне о том, что завершились переговоры и подписаны документы с китайской компанией Lifan о создании в Борисове совместного предприятия легковых автомобилей с максимальной перспективой локализации, — рассказал 23 декабря первый заместитель премьер-министра Владимир Семашко, сообщает БЕЛТА. — Учредителями с белорусской стороны выступят БАТЭ и БелАЗ.

– Привлекая сюда крупную корпорацию, мы говорим: ребята, приходите, мы вам создадим лучшие условия, лучше, чем у соседей, — отметил Александр Лукашенко.

Между тем, инициатива белорусских властей по производству китайских автомобилей не может не настораживать. Во-первых, еще долго не забудется почти анекдотичная история с выпуском в Беларуси «Самандов». Тот же Владимир Семашко в начале года сообщил, что за 5 лет работы иранцы произвели и продали только около тысячи автомобилей – цена на устаревшую модель оказалась неоправданно высокой. Вице-премьер пообещал сотрудничество с иранцами разорвать.

Во-вторых, автомобили Lifan уже с 2008 года собираются на заводе в Карачаево-Черкессии. Производственная мощность предприятия – 50 тысяч авто в год и она далеко не освоена: за первое полугодие в России продано лишь около 7500 автомобилей, сообщает lifan-car.ru. Можно лишь догадываться, зачем белорусским властям создавать в Таможенном союзе второй завод по выпуску непопулярных авто. В-третьих, качество китайских авто, мягко говоря, далеко от совершенства. Рассмотрим две самые популярные модели Lifan, производящиеся в России, – Lifan Solano и Lifan Smily.

Седан Lifan Solano внешне похож на Toyota Corolla начала 2000-х годов. Двигатель 1,6 литра с 109 лошадками слабоват и «в гору идет очень неохотно», пишет издание «За рулем». Есть и множество и других проблем: слабая шумоизоляция, неудобные сиденья, двери закрываются лишь с сильного размаха и т.д. Цена – 390 тысяч российских рублей (12,5 тыс. долларов).

Хэтчбек Lifan Smily (грубоватая копия Mini Cooper) удивляет еще больше. Длина малолитражки ультрабюджетного класса (в России она стала производиться лишь в этом году) – 3,7 м, ширина – 1,6 м. Мотор 1,3 л мощностью 89 л. с. разгоняет авто до 100 км/час аж за 14,5 секунды, пишет kp-avto.ru. И, конечно, множество других проблем: шум в салоне после 100 км/ч превращается в вой, высоким людям внутри сидеть неудобно и т.д. Участвовавший в тест-драйве журналист издания «За рулем» поделился с читателями: «Когда ко мне подсел достаточно весовый коллега, «Смайлик» скис. Когда на абсолютно ровной дороге при утопленной в пол педали газа скорость падает от встречного ветра – это нонсенс». Выводы других изданий также неутешительны: «Жигули» с той же загрузкой едут быстрее, если Lifan Smily и способен стать для кого-либо находкой, то только «для небогатого обитателя глубинки». Цена авто – 260 тысяч российских рублей (8,3 тыс. долларов).

Остается пожелать господам Лукашенко и Семашко в полной мере насладиться достоинствами Lifan, лично пересев с продукции западного автопрома на китайские «Жигули».

**Николай Чернявский.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 37455, маб. +375292184739

**Падпісана да друку 28.12.2011 у 16.50.** Наклад: 290 асобнікаў.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца з дапамогай аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.